# Голас Радзімы

№ 38 (2076)
22 верасня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



У спадчыну ад маці і бабулі дасталіся Фаіне Туронак з вёскі Алашкі на Шаркоўшчыне традыцыйныя прылады працы беларускіх сялянак. Некалі доўгімі зімовымі вечарамі праседжвалі яны за калаўротам і кроснамі, каб выткаць бялюткае палатно, з якога ўсёй сям'і можна будзе пашыць адзенне, упрыгожаныя адметным узорам посцілкі, ручнікі, сурвэткі...

Усімі сакрэтамі ткацкага майстэрства авалодала Фаіна Туронак. Ткацтва для яе цяпер не паўсядзённы занятак, як некалі для бабулі (ёсць што і апрануць, і чым хату прыбраць), а захапленне. І ўкладвае яна ў гэту работу ўсю сваю фантазію, увесь талент, душу.

НА ЗДЫМКУ: да Фаіны ТУРОНАК прыйшлі суседкі Алена СІКОРА і Антаніна ЛОНСКАЯ.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

КАНТАКТЫ

## ...ПЛЮС ЗАХОДНІ БЕРЛІН

З прапановай наладзіць пастаянныя навуковыя і культурныя сувязі паміж свабодным універсітэтам Заходняга Берліна і Беларускім дзяржаўным універсітэтам імя У. І. Леніна звярнуўся прарэктар буйнейшай ВНУ нашай рэспублікі Аляксандр Шарапа да кіраўніка групы заходнеберлінскіх студэнтаў, якая прыбыла ў Мінск, Хельгі Кругер Дэй.

Госці наведалі нашу краіну як прадстаўнікі саюза «Акцыя даравання віны—служба справе міру». Сэнс дзейнасці гэтай арганізацыі, створанай 30 гадоў назад, у яе назве. Маладыя немцы прыязджаюць з місіяй міру ў тыя мясціны, дзе ў гады вайны лютавалі нацысты.

— Сумесная навуковая работа, асабістыя кантакты, абмен студэнтамі і выкладчыкамі дапамагаюць пераадольваць прадузятасць паміж народамі, разбураюць вобраз ворага. Спадзяюся, што менавіта такое супрацоўніцтва наладзіцца ў нас з калегамі з Мінска,—сказала Хельга Кругер Дэй.

Белдзяржуніверсітэт з кожным годам умацоўвае сувязі з зарубежнымі ВНУ, у прыватнасці, з Ягелонскім універсітэтам у ПНР, з Йенскім у ГДР, з Рурскім універсітэтам заходнегерманскага горада Бохум.

РАСЦЕ ДАВЕР

## «УСХОДНІ ЭКСПРЭС» У БРЭСЦЕ

Транскантынентальны поезд са старадаўніх, адрэстаўрыраваных вагонаў, які надышоў да перона Брэсцкага вакзала, прыцягнуў увагу гараджан, шматлікіх гасцей. Гэта апісаны ў свой час Агатай Крысці «Усходні экспрэс», які адрадзіла да жыцця адна з заходнееўрапейскіх турыстычных фірм «Арыент». У саставе — вышэйшага класа спальныя вагоны, зручна абсталяваныя салон-вагоны, рэстаран, прадуктовы склад, нават вагон-лазня.

Пасажыры гэтага незвычайнага поезда, які пачаў доўгі паўтарамесячны шлях з Парыжа праз Берлін, Варшаву, Маскву, Новасібірск, Пекін, Ганконг у Токіо,—у асноўным дзелавыя людзі з Францыі, Англіі і Японіі. Падарожжа ў такім саставе — адно задавальненне. Шлях «Усходняму экспрэсу» адкрыла абстаноўка растучага даверу, актыўных добрасуседскіх сувязей.

У Брэсце гасцей прадстаўнікі «Інтурыста», чыгуначнікаў, грамадскасці сустрэлі хлебам-соллю. Дзеці паднеслі пасажырам кветкі.

У час кароткага прыпынку, калі поезд пераводзіўся на шырокую каляіну, турысты азнаёміліся з горадам, пабывалі ў Брэсцкай крэпасці-героі, дзе ўсклалі кветкі да Вечнага агню.

ВІЗІТЫ

## ГОСЦЬ З ЛАОСА

У рэспубліцы знаходзіўся галоўны рэдактар часопіса ЦК Народна-рэвалюцыйнай партыі Лаоса «Кхосана» («Агітатар») Кхамкай Вієнг Саван. У ходзе візіту ён меў гутаркі ў ЦК КПБ, рэдакцыі часопіса «Политический собеседник».

Госць азнаёміўся з умовамі працы і быту калектыву мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт».

У час паездак у Баранавіцкі раён і Маладзечна журналіст з Лаоса цікавіўся рознымі бакамі жыцця рабочых саўгаса «Цепліводы», вытворчага аб'яднання «Электрамодуль». Ён наведаў памятныя мясціны беларускай сталіцы.

У праграме знаходжання рэдактара часопіса «Кхосана» — знаёмства з Мінскім цяплічным камбінатам, паездка на мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Курган Славы.

СУХУМІ—БРЭСТ




Яшчэ адна авіялінія працягнулася ў прыгранічны Брэст. Яна звязала яго з Харкавам і Сухумі. Тры разы на тыдзень сюды прыбываюць самалёты Грузінскага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі. Цяпер паветраныя трасы звязваюць Брэст з Масквой, Мінеральнымі Водамі, Кіевам, Растовам-на-Доне, Краснадарам і іншымі гарадамі краіны.

**НА ЗДЫМКУ:** экіпаж самалёта ТУ-134 А — штурман Уладзімір **ГАНЧАРОЎ** (злева), другі пілот Сяргей **УКРАІНЦАЎ**, камандзір карабля Уладзімір **ЕЛЬСУКОЎ** і бортмеханік-інжынер Жорж **ХУБУА**.

БРАЦКІЯ СУВЯЗІ

## АБМЯНЯЛІ — НЕ ПРАГАДАЛІ

Прынцып натуральнага абмену паклалі ў аснову сваіх эканамічных адносін земляробы Гродзеншчыны і кааператары Польшчы.

Першую партыю грыбоў адправіў калгас імя Заслонава Іўеўскага раёна Ломжынскаму кааператыву. А той выдзеліў дзве тысячы кошыкаў-лубянак, у якіх дары беларускага лесу будуць экспартавацца ў іншыя краіны.

Падобныя кантакты падтрымліваюцца і ў Берасцейскім раёне. У калгасе імя А. Варанецкага пры пераходзе на гаспадарчы разлік паявіліся лішкі аўтатэхнікі. Іх абмянялі ў сельскагаспадарчым кааператыве «Бялута», што недалёка ад Варшавы, на сучасную ЭВМ. З яе дапамогай у гаспадарцы пасняхова разлічваюць аптымальныя рацыёны, севазвароты, вядуць бухгалтарскія аперацыі.

МЕДЫЦЫНСКАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ



Інстытут неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі, які знаходзіцца ў Мінску,— вядомы медыцынскі цэнтр Беларусі. Многія навуковыя распрацоўкі, зробленыя яго вучонымі, паспяхова прымяняюцца тут на практыцы.

**НА ЗДЫМКУ:** супрацоўнікі аддзела клінічнай дыягностыкі Сяргей **ЛІХАЧОЎ** і Рыгор **ЛЯСНІЧЫ** праводзяць чарговы эксперымент.

ПРЫБЫТАК—У ВАЛЮЦЕ

## ЛЁН НА ЭКСПАРТ

Упершыню будзе пастаўляць сваю прадукцыю на экспарт Красненскі льнозавод Маладзечанскага раёна. Гэта стала магчыма дзякуючы стварэнню аграпрамысловага камбіната. Вызначаны гаспадаркі, сыравіна якіх будзе перапрацоўвацца на льновалакно для пастаўкі за межы краіны. Гэта калгасы «Светлы шлях», імя Леніна, імя Жданава.

З атрыманага прыбытку 15 працэнтаў валюты будзе мець завод. Астатняе—гаспадаркам. Аднак не толькі названыя калгасы могуць пастаўляць трасту для перапрацоўкі на экспартнае валакно. Гэта можа рабіць кожная гаспадарка, сыравіна якой будзе дастаткова якаснай.

ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СУВЯЗІ

## МЕЛОДЫІ ВОСТРАВА СВАБОДЫ

Сапраўдны падарунак меламанам Мінска зрабілі Беларускі дом грампласцінак Усесаюзнай фірмы «Мелодия», Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і рэспубліканскае аддзяленне Таварыства савецка-кубінскай дружбы. У Мінску прайшла дэкада кубінскай грампласцінкі, прысвечаная 30-годдзю перамогі Кубінскай рэвалюцыі.

Паклоннікі джаза і аматары класічнай музыкі, той, хто аддае перавагу стылю «рок» ці народным мелодыям,—любы з меламанаў знайшоў у гэтыя дні на прылаўках магазінаў горада новыя запісы, якія могуць упрыгожыць яго фанатэку. Звыш васьмідзесяці розных грампласцінак прывезлі ў Мінск прадстаўнікі кубінскай фірмы грамзапісу «Эгрэм». Дэкады музычных запісаў з вострава Свабоды ў рамках плана культурнага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі сталі ўжо традыцыяй.

АТРЫМАНЫ ЗАКАЗЫ

## НОВЫ ІНСТРУМЕНТ

Некалькімі аўтарскімі пасведчаннямі абаронена фрэза новай канструкцыі, распрацаваная ў Мінскім праектным канструктарска-тэхналагічным інстытуце.

Новая фрэза вельмі зручная пры вырабе спецыяльных шасцерань-колаў, якія шырока выкарыстоўваюцца ў канструкцыях трактароў, аўтамабіляў, сельскагаспадарчых машын. У адрозненне ад папярэдніц, яе трываласць узрастае ў 3-10 разоў. А выкарыстанне навінкі дазваляе павялічыць прадукцыйнасць працы на звычайным станочным абсталяванні ў паўтара-два разы.

На доследным заводзе асвоены выпуск новага інструменту. Заказы атрыманы ад шэрагу прадпрыемстваў краіны. У тым ліку Арлоўскага завода шасцерань, Мінскага, Чэлябінскага і Харкаўскага трактарных.

ДАПАМАГЛО МІНІСТЭРСТВА

## НА СЦЭНЕ — МАЙСТРЫ ПРЫЧОСАК

У зале Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў у Мінску прадстаўнікі фірм — італьянскай «Фрамезі», польскіх «Юланд» і «Лабімэкс» дэманстравалі розныя мадэлі прычосак.

Яны паказалі цуды цырульнага майстэрства. На працягу трох гадзін праціягвалася гэта своеасаблівае шоу прыгажосці. Прычоскі маладзёжныя, вячэрнія, разлічаныя на кожны дзень, якія адлюстроўваюць сучасны стыль у развіцці цырульнага майстэрства, раз-пораз выклікалі апладысменты гледачоў.

Кіраўнік фірмы «Ітэлі» Луча Фузара адзначыў, што падобнае мерапрыемства ў нашай краіне праводзіцца ўпершыню і стала яно магчымым дзякуючы садзеянню Міністэрства бытавога абслугоўвання насельніцтва БССР.

ДОБРААХВОТНЫ ЎЗНОС

## БЫЦЬ МУЗЕЮ

Пералічыць 50 рублёў на рахунак Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры — так вырашылі юныя выхаванцы студыі выяўленчага мастацтва, якая ўжо шмат гадоў працуе пры Івянецкай сярэдняй школе імя Ф. Дзяржынскага Валожынскага раёна.

Госці, удзельнікі традыцыйнага раённага літаратурнага свята, прысвечанага 180-годдзю з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча, змаглі ацаніць работу юных івянецкіх майстроў: малюнкі па творах пісьменніка, калекцыю славутай івянецкай керамікі. А яшчэ кожны змог набыць гліняныя цацкі-свістулькі, спецыяльна падрыхтаваныя памятныя медалі.

СЕРВІС

## САМЫ МОДНЫ ТЭАТР

Насуперак традыцыі гэты тэатр пачаўся не з вешалкі, а з выстаўкі перспектыўных мадэлей моднага адзення. Пасля прэм'еры гледачы атрымалі магчымасць набыць адзенне, якое спадабалася.

Больш за сто яркіх і арыгінальных фантазій вынеслі на суд гледачоў работнікі вытворчых аб'яднанняў «Элегант» і «Гомельтрыкатажбыт». Амаль паўтарагадзіннае касцюміраванае шоу суправаджалася жартамі, дзелавымі парадамі «знаўцаў моды» — літаратурных персанажаў, якіх прадстаўлялі артысты абласнога тэатра лялек.

Тэатр моды — адна са шматлікіх форм абслугоўвання насельніцтва на Гомельшчыне. Прывычнымі дэманстрацыйнымі і гандлёвымі пляцоўкамі для работнікаў быту сталі сельскія клубы, гарадскія Дамы культуры, вытворчыя цэхі і ўстановы.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНСК. Прафілакторый вытворчага аб'яднання «Інтэграл» на маляўнічым беразе вадасховішча «Вяча», што непадалёку ад беларускай сталіцы, гасцінна прыняў маці з дзецьмі — жыхароў раёнаў, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Гасцінныя гаспадары прадаставілі гасцям з Брагінскага, Ельскага, Чачэрскага і іншых раёнаў Гомельшчыны ўтульны жылы корпус, аснашчаны сучаснай фізіятэрапеўтычнай апаратурай, водалячэбніцай, акружылі іх увагай і клопатам. За летні сезон на базе «Інтэграла» папраўіла здароўе больш за 200 маці з дзецьмі.

НАВАГРУДАК. Персанажы многіх твораў Адама Міцкевіча, адлюстраваныя ў драўляных скульптурах, нібыта ажылі на яго радзіме — у старадаўнім парку Навагрудка. Тут два тыдні праходзіў пленэр, у якім прынялі ўдзел самадзейныя разчыкі па дрэву з розных абласцей рэспублікі. У дар гараджанам засталіся два дзесяткі твораў, навеяных паэмамі «Пан Тадэвуш», «Дзяды» і іншымі.

Удзельнікі пленэра наведалі Дом-музей Адама Міцкевіча, пабывалі на апетым ім маляўнічым возеры Свіцязь.

ПОЛАЦК. Нібыта феерверк, які ўспыхнуў на плошчы Францыска Скарыны, рассыпалася па вуліцах свята горада. Тысячы палачан сталі яго арганізатарамі і ўдзельнікамі. І дзятве, і дарослым усюды хацелася паспець, усё ўбачыць. А паглядзець, сапраўды, было што. Праграма аказалася цікавай і насычанай. Яна ўключала і XV традыцыйнае свята кнігі на плошчы Скарыны, і выступленні прафесійных і самадзейных артыстаў. Каля Багаяўленскага сабора, у якім знаходзіцца карцінная галерэя, размясціліся самадзейныя мастакі. Яны не толькі прапаноўвалі свае работы, але і рабілі тут жа замалёўкі, жадаючым малявалі партрэты.

## РЭАЛІЗУЕЦЦА КОМПЛЕКСНАЯ ПРАГРАМА ПА ВЫПУСКУ ТАВАРАЎ НАРОДНАГА СПАЖЫВАННЯ

# КАБ БЫЛО ЎСЯГО ЎДОСТАЛЬ

Становішча з таварамі народнага спажывання сёння, бадай, можна вызначыць як адно з найскладанейшых. Замежныя землякі, якія гасцілі на Радзіме і, безумоўна ж, наведвалі савецкія магазіны, рынкі, таксама маглі гэта пабачыць, хоць гандлёвыя паліцы і не пустыя. Не хапае яшчэ, на жаль, у краіне якасна зробленых рэчаў, недастатковы аб'ём паслуг, што прапануе наш сервіс. Таму скаргі, а часам і абурэнні людзей, якія не ў стане набыць патрэбнае, зразумелыя. І калі гэтая незадаволенасць часцей за ўсё выплюхвалася ў бясконцых чэргах за «дэфіцытам», у прыватных размовах паміж гаспадынямі, то сёння праблема ў поўны голас загучала са старонак газет, з тэлеэкранаў, з высокіх і адказных трыбун, у тым ліку і з найвастрэйшай дыскусійнай трыбуны XIX партыйнай канферэнцыі ў Маскве. У выніку не толькі грамадства, але і шматлікія міністэрствы, ведамствы, якія ў першую чаргу нясуць адказнасць за крытычнасць сітуацыі, нарэшце павярнуліся тварам да надзённых патрэб людзей—да так званай сацыяльнай сферы. Многія з дэлегатаў партканферэнцыі адзначалі: лёс перабудовы залежыць ад таго, ці атрымаюць працоўныя ў бліжэйшы час дастаткова якасных прадуктаў харчавання, прамысловых тавараў, жылля, бытавых паслуг.

І літаральна праз некалькі месяцаў Савет Міністраў СССР прыняў пастанову «Аб мерах па павелічэнню вытворчасці і паскарэнню насычэння рынку таварамі народнага спажывання», якая была падрыхтавана ў адпаведнасці з рашэннямі XIX Усесаюзнай партканферэнцыі. Зараз і беларускі ўрад павінен распрацаваць аналагічны дакумент, у якім будуць улічаны канкрэтныя патрэбы рэспублікі і магчымасці яе вытворчага патэнцыялу.

Мабыць, з-за вось такога, назаву, «пагранічнага» стану ў справе з таварамі народнага ўжытку мне, калі я ўзялася працаваць над сённяшняй тэмай і пазваніла на некаторыя прадпрыемствы нашай лёгкай прамысловасці, каб дамовіцца аб іх наведанні, спачатку прыйшлося чуць адмову, адмову, адмову. Не, безумоўна, мне ніхто не сказаў: «Не пусцім!» Проста ўгаворвалі прыехаць праз паўгода, год, калі, напрыклад, на фабрыцы закончыцца тэхнічная мадэрнізацыя ці будуць запушчаны на паток нейкія асаблівыя мадэлі прадукцыі. Карацей, прычын і тлумачэнняў хапала самых розных. І я разумела гэтых людзей: скажыце, якім гаспадарам захочацца, каб госці прыйшлі на некалькі гадзін раней і ўбачылі дом у момант уборкі ці ў самы гарачы і адказны перыяд падрыхтоўкі на кухні? Вось і паважаны Анатоль Біёнчык, генеральны дырэктар швейнага аб'яднання «Камсамолка», што знаходзіцца ў Мінску, які месяцы два назад расказваў чытачам нашай газеты пра работу XIX партыйнай канферэнцыі, на гэты раз п[illegible] прабачыць яго, бо вельмі заняты: нейкія непаладкі з новым абсталяваннем для прадпрыемства. Хочацца ім адно, а міністэрства выдзяляе зусім іншае, якое не здолее забяспечыць патрэб[illegible] сёння якасць прадукцыі. «Камсамолцы» ж шыюць жаночыя гарсэтныя вырабы, на сёння, бадай, лепшыя ў краіне. Рэчы гэтыя практычна не ўступаюць імпартным, таму сёння калектыву трэба больш упэўнена выходзіць на сусветны ўзровень. Ён, як вядома, крытэрый не толькі ў электроніцы ці машынабудаванні, але і ў вытворчасці тавараў шырокага спажывання таксама.

І вось я паехала ў Магілёў. Сярод іншых прадпрыемстваў гэтага буйнога прамысловага цэнтра рэспублікі вырашыла спыніцца на двух: Магілёўскай эксперыментальнай абутковай фабрыцы і швейным аб'яднанні імя Валадарскага.

У першага з названых ужо сталая рэпутацыя (як і ў згаданай вышэй «Камсамолкі»). Фабрыка добра вядома на ўнутрысаюзным рынку. Яе прадукцыя—дзіцячы абутак таксама, як і прадукцыя мінскіх швейнікаў, адна з найлепшых ў краіне. Гэта ведаю і з уласнага вопыту, бо сына дагэтуль старалася абуваць менавіта ў туфлі і боцікі магіляўчан, і зараз, калі ён пераступае тую групу размераў, што вырабляюць ў Магілёве, з пэўнай доляй разгубленасці гляджу на паліцы ў магазінах, запоўненыя вырабамі іншых прадпрыемстваў. Але, праўда, як і ўсе, спадзяюся на лепшае.

Яшчэ раз, таксама вельмі наглядна, адчула ўзровень магілёўскіх абутнікоў, калі Святлана Ягорава, намеснік галоўнага інжынера фабрыкі, запрасіла на невялікую экскурсію: спачатку ў асартыментны кабінет, дзе выстаўлены ўзоры прадукцыі, што вырабляюць тут, а потым у цэхі.

Больш за два мільёны пар дзіцячых туфлікаў, басаножак, боцікаў сыходзяць з магілёўскіх канвеераў у год. Сёлета тут увялі ў эксплуатацыю новы вытворчы корпус, закупілі ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі агрэгат для ліцця падэшваў.

Гэта машына працуе ўжо. Ідзе мантаж і ўсталяванне яшчэ адной, якая забяспечвае ліццёвы метад мацавання падэшваў.

— Я лічу, што і мы ў стане працаваць так, каб можна было гаварыць пра сусветны ўзровень нашай прадукцыі,— зазначае Святлана Іванаўна.—Але ўсё яшчэ старыя грахі нашай вытворчасці, часта сумежнай, скоўваюць магчымасці рэалізаваць увесь патэнцыял. То няма добрых фарбавальнікаў, то хімікатаў, якімі скуры апрацоўваюць, каб былі яны больш эластычнымі. І, на жаль, спіс гэты можна працягваць.

Так, складанасцей хапае. Але работнікі прадпрыемства добра разумеюць, што самі па сабе праблемы не знікнуць. Кожны павінен рабіць для выпраўлення становішча ўсё, што ён можа, тады стане перабудова больш адчувальнай і ўвогуле, і ў кожным канкрэтным выпадку. Усё, што залежыць ад абутнікоў, у Магілёве робіцца. На працягу года на 100 працэнтаў абнаўляецца асартымент вырабаў, уводзіцца каля 80 працэнтаў зусім новых мадэлей, якія распрацоўвае Рэспубліканскі дом мадэлей абутку. Канчатковую ж іх даводку ў адпаведнасці з умовамі вытворчасці робяць на фабрыцы, бо, як ужо згадвала Святлана Ягорава, не заўсёды пакуль нашы жаданні, жаданні мастакоў адпавядаюць магчымасцям вытворчасці.

Але выйсце шукаюць і тыя, і іншыя. На магілёўскай фабрыцы наладзілі, напрыклад, прамыя сувязі з чэхаславацкімі абутнікамі з фабрыкі «Сазаван», што ў Зручы-на-Сазаване. Яны шлюць у Магілёў фармаваныя падэшвы, а беларусы ім—загатоўкі і ўжо гатовую прадукцыю. Што ж, гэта патрабаванне часу: развіваць гаспадарскія адносіны да справы, прадпрымальнасць.

Сёння магілёўская абутковая фабрыка працуе фактычна без рэкламацый ад гандлю і скаргаў ад пакупнікоў. Яе прадукцыя вельмі папулярная. І па заслугах. Але ў тым асартыментным кабінеце, куды мяне запрасілі гаспадары, ёсць я[illegible] адна невялікая палічка. [illegible]ёй выстаўлены ўзоры дзіцячага абутку, што выпускаюць фірмы Італіі і Францыі. Гэтыя туфлікі, боцікі дасылае на фабрыку рэспубліканская Гандлёва-прамысловая палата, каб глядзелі свае абутнікі і вучыліся. І, канешне, вучыцца пакуль ім трэба нямала.

У адрозненне ад абутковай, у швейнай фабрыкі імя Валадарскага, дзе шыюць жаночае верхняе адзенне, сітуацыя больш складаная. Яшчэ некалькі год назад яна знаходзілася сярод даволі слабых прадпрыемстваў. Магілёўскія паліто гадамі віселі ў магазінах. Іх абыходзілі пакупнікі. Іх неахвотна браў гандаль. Але ж браў: нечым жа гандляваць трэба. І вось цяпер менавіта на гэтай швейнай фабрыцы той «пагранічны» стан паміж учора і заўтра як нідзе выразны і красамоўны. Тут адначасова ў вытворчых памяшканнях можна ўбачыць шэрыя, невыразныя мадэлі (так, іх яшчэ шыюць) і тыя, што заваявалі ўжо фабрыцы сённяшні аўтарытэт: з прыгожых мяккіх тканін, сучаснага фасону, з цікавай аздобай тасьмой і скурай, з моднымі фарбаванымі ў тон тканіны пушыстымі каўнярамі з натуральнага футра—пясца, чарнабурай лісіцы, каракулю. Пра іх цяпер пакупнікі пытаюцца ў прадаўцоў гатовага адзення асобна. І калі раней словы «магілёўскае паліто» вымаўлялі з абыякавасцю, то цяпер—зацікаўлена і з павагай да працы швейнікаў. Так, сімпатый спажыўцоў, а разам з імі і прыбыткаў трэба дамагацца. Энергіяй, творчымі адносінамі да сваёй справы, высокай прафесійнай кваліфікацыяй работнікаў. На швейнай фабрыцы, як і на абутковай, такія людзі ёсць. Яны шчыра імкнуцца, каб іх прадпрыемствы былі канкурэнтаздольнымі, каб яны сталі сапраўднымі фірмамі, аўтарытэтнымі і шырока папулярнымі. І тады «ўчора» стане сапраўдным учора, а заўтрашні дзень не расчаруе нас, а, наадварот, прынясе з сабой усяго ўдосталь.

У рэспубліцы распрацавана комплексная праграма па таварах народнага спажывання. Зараз многія яе палажэнні, кантрольныя лічбы, якія дагэтуль лічыліся дастатковымі, пераглядаюцца ўбок павышэння тэрмінаў рэалізацыі намечанага. Таму пакуль мы не можам вам расказаць пра іх больш падрабязна: ідзе работа. Але да гэтай важнай тэмы—задавальненне патрэб савецкіх людзей, насычэнне рынку таварамі мы яшчэ вернемся.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ФОТА З АРХІВА





**Першая сусветная, грамадзянская войны, замежная інтэрвенцыя пакінулі маладой Рэспубліцы Саветаў разбураныя гарады, заняпад прамысловасці і сельскай гаспадаркі. На працягу дваццатых ды і на пачатку трыццатых гадоў краіна стала буйнейшым імпарцёрам машын і абсталявання. Звернемся да лічбаў. У 1931 годзе імпарт складаў 30, а ў 1932 годзе ўжо 50 працэнтаў. За гэта прыходзілася плаціць валютай. А для атрымання валюты ішло збожжа. Дробныя сялянскія гаспадаркі не маглі даць яго ў неабходнай колькасці.**

**Становішча рабілася больш складаным, бо капіталістычнае акружэнне, якое не змагло ў свой час расправіцца з дзяржавай рабочых і сялян фізічна, старалася наладзіць эканамічную блакаду. У гэтай сувязі СССР прыняў курс на калектывізацыю і індустрыялізацыю краіны**

**Праходзіла гэта вельмі няпроста. Асабліва на ўскраінах, да якіх пры царызме адносілася і Беларусь.**

**Вось што пісала газета «Звязда» пра той час: «Эканамічнае жыццё Беларусі, разбуранае сямігадовай вайной, знаходзілася ў катастрафічным стане. Прэзідыум СНК Беларусі вырашыў паслаць дэлегацыю ў Вышэйшы савет народнай гаспадаркі РСФСР. Дэлегацыя ў Маскве сустрэла поўную гатоўнасць аказаць садзейнічанне адраджэнню гаспадаркі Беларусі».**

**Дапамога Беларускай ССР ад РСФСР паступала ў вялікіх размерах. Так, паводле даных Наркамата харчавання БССР, было атрымана 5 тысяч пудоў мануфактуры, 40 тысяч — нафтапрадуктаў, выдзелена дадатковых крэдытаў у суме 3 мільярды рублёў і многае іншае. Тэмпы аднаўлення і развіцця прамысловасці БССР былі больш высокімі, чым у сярэднім па Савецкаму Саюзу. У гэтым знайшла сваё адлюстраванне ленінская нацыянальная палітыка партыі, накіраваная на хутчэйшае пераадоленне атрыманай у спадчыну ад мінулага гаспадарчай і культурнай адсталасці БССР і іншых нацыянальных рэспублік.**

**Велізарныя вынікі палітыкі індустрыялізацыі ў Беларускай ССР. За гады даваенных пяцігодак у Беларусі было пабудавана 1700 прамысловых прадпрыемстваў, абсталяваных наймоўшай тэхнікай, у ліку іх Асінаўская БелДРЭС, «Гомсельмаш», Бабруйскі дрэваапрацоўчы і Аршанскі льняны камбінаты, Магілёўская фабрыка штучнага валакна і станкабудаўнічы завод, швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» і панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ» у Віцебску, Касцюковіцкі шкляны і Крычаўскі цэментавы заводы, дзесяткі машынабудаўнічых заводаў і інш.**

**НА ЗДЫМКАХ: будаўніцтва Дома ўрада ў Мінску; узводзіцца Асінаўская БелДРЭС пад Віцебскам (1931 г.).**

# НА РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ПЕРАЛОМЕ

**(З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ Ў 1917 ГОДЗЕ)**

**(Заканчэнне. Пачатак у № 37).**

Ход падзей паказаў, што нацыянальную праблему нельга вырашыць, штучна аддзяліўшы яе ад іншых сацыяльна-эканамічных і палітычных пытанняў рэвалюцыі. Кардынальнае вырашэнне гэтай праблемы было магчыма толькі ў агульным рэчышчы рэвалюцыйнай барацьбы, што знаходзілася на стадыі перарастання буржуазна-дэмакратычнага этапу ў сацыялістычны. Па меры паглыблення рэвалюцыі працоўныя розных нацый, выступаючы сумесна за значныя пераўтварэнні ў агульнарасійскім маштабе, усё часцей заяўлялі і аб сваіх спецыфічных запатрабаваннях у сферы нацыянальнага жыцця. На беларускіх мітынгах у гарадах і сёлах, на фронце і сярод бежанцаў поруч з сацыяльна - эканамічнымі абмяркоўваліся і пытанні будучага палітычнага і культурнага статуса Беларусі ў непарыўнай сувязі з усёй рэвалюцыйнай Расіяй.

Так, двухтысячны мітынг беларускіх працоўных Петраграда, які адбыўся 8 красавіка ў цырку «Мадэрн», у прывітанні Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў падтрымліваў яго барацьбу за рэалізацыю агульна-дэмакратычных патрабаванняў, а затым дадаваў, што ставіць «абавязковай умовай свабоднага развіцця Расіі, у прыватнасці Беларусі, федэратыўны лад Расіі...» Рабочыя-беларусы, што сабраліся 1 чэрвеня на Пуцілаўскім заводзе, у сваёй рэзалюцыі запісалі: «Вітаючы лозунг свабоднага самаўсведамлення народаў, мы, беларусы, рабочыя Нарвенскага раёна, бяром яго пад сваю абарону і лічым яго адным з важнейшых пунктаў сваёй праграмы».

Рэвалюцыя абудзіла стыхійнае імкненне шырокіх слаёў народа да авалодання ведамі, нацыянальнай культурай. У многіх кутках Беларусі (Мінску, Бабруйску, Чэрвені, Касцюковічах) і па-за яе межамі (Арле, Яраслаўлі, Кіеве, Адэсе і г. д.) узнікалі разнастайныя беларускія таварыствы, культурна - асветныя гурткі, тэатральна - асветныя гурткі, тэатральныя калектывы.

У беларускія арганізацыі, рэдакцыі газет паступалі пісьмы ад ураджэнцаў Беларусі, якіх вайна закінула далёка ад родных мясцін — бежанцаў, салдат, работнікаў эвакуіраваных устаноў. Знаходзячыся ў далечыні ад бацькоўскага краю, зведаўшы за час блуканняў шмат цяжкасцей і нягод, яны востра перажывалі разлуку з радзімай, прагна лавілі кожную вестку аб падзеях на Беларусі, горача ўспрымалі ідэі нацыянальнай роўнасці і свабоды. Гісторыя данесла да нас галасы некаторых з гэтых людзей.

Вось што, напрыклад, пісаў у рэдакцыю віцебскай газеты «Свободное слово» аграном І. Башкевіч:

«Злы лёс у апошні час закінуў мяне далёка ад роднай і дарагой Беларусі. Па гэтай прычыне я быў адарваны ад шматпакутнага беларускага народа. Я быў выбіты з шэрагаў тых сыноў Беларусі, якія хварэлі душою аб сваіх бацьках і братах, аб іх забітасці, рабстве, галечы. Жывучы на чужыне, я чутка прыслухоўваўся да голасу Беларусі, сачыў за работай лепшых яе сыноў.

І вось цяпер, калі ў Расіі надышоў светлы момант свабоды, роўнасці, братэрства і нацыянальнага самавызначэння, я з яшчэ больш трывожна заміраючым сэрцам сачу за беларускім народам. Але як я ні напружваю свой зрок, каб сярод шматлікіх народаў Расіі, што арганізуюцца і ўжо арганізаваліся, убачыць беларускі народ і яго лепшых перадавых сыноў, мне гэта ніяк не ўдаецца. Значыць, беларусы зноў засталіся ў хвасце. Балюча. Маркотна да слёз. Але чаму усё гэта так? Няўжо на беларускай зямлі няма арганізаваных моцных адзінак?»

Салдат С. Сяўрук паведамляў праз мінскую газету «Вольная Беларусь», што «ў дзеючай арміі ёсць шмат беларусаў, якія хочуць чытаць беларускія кніжкі і газеты», і выказваў шкадаванне, што ў войскі трапляе мала такой літаратуры.

Ураджэнец Беларусі М. Мінаеў пісаў у Магілёў з Екацярынаслава (цяпер Днепрапятроўск), што ў «казаччыне» асела шмат беларускіх бежанцаў, і ад іх імя прасіў «прысдаць родну газету ці часопіс, бо тут няма».

Уключаючыся ў беларускі нацыянальна - вызваленчы рух, прадстаўнікі працоўных класаў не маглі пагадзіцца, каб у якасці цэнтральнага [illegible]ча яго прадстаўляў БНК н[illegible]але са Р. Скірмунтам. Рабочыя, сяляне, дэмакратычная інтэлігенцыя, што з'яўляліся сацыяльнай базай рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку ў нацыянальным руху, усё больш настойліва патрабава[illegible]еснага спалучэння нацыян[illegible]ых лозунгаў з задачай глыбокіх сацыяльна - палітычных пераўтварэнняў.

У гэтай сітуацыі ініцыятыву ў свае рукі пастаралася ўзяць Беларуская сацыялістычная грамада. За некалькі месяцаў рэвалюцыі гэтая партыя пашырыла свой уплыў сярод інтэлігенцыі, навучэнскай моладзі, пэўнай часткі сялян, рабочых і салдат. Петраградская арганізацыя БСГ у красавіку 1917 года налічвала да тысячы членаў, з іх — каля 300 рабочых. Арганізацыі грамады ўзніклі таксама ў Мінску, Маскве, Бабруйску, Слуцку, Гомелі і іншых гарадах. Па важнейшых пытаннях развіцця рэвалюцыі (аб вайне і міры, аб зямлі, аб уладзе) пазіцыя БСГ у цэлым супадала з платформамі ўсерасійскіх дробнабуржуазных партый эсэраў і меншавікоў. Як і гэтыя партыі, БСГ не адмаўляла класавай барацьбы, прызнавала неабходнасць у далёкай перспектыве сацыяльнай рэвалюцыі. Сваю канчатковую мэту Грамада фармулявала наступным чынам: «Увядзенне сацыялістычнага парадку цераз развіццё класавай барацьбы і сацыяльную рэвалюцыю». Аднак гэтыя шырокавяшчальныя заявы з боку дробнабуржуазных партый не падмацоўваліся рэальнымі справамі. На першы план БСГ ставіла нацыянальнае пытанне, лічыла, што спачатку трэба вырашыць нацыянальныя задачы, а затым ужо змагацца за сацыяльную рэвалюцыю.

Па катэгарычнаму патрабаванню грамадаўцаў у ліпені 1917 года ў Мінску быў скліканы новы з'езд беларускіх арганізацый. Падвергнуўшы на гэтым з'ездзе сур'ёзнай крытыцы Беларускі нацыянальны камітэт, члены Грамады дабіліся яго скасавання. Замест БНК неўзабаве быў утвораны новы орган — Цэнтральная рада беларускіх арганізацый. У статуце Рады было запісана, што яе дзейнасць грунтуецца на прынцыпах поўнага дэмакратызму, перадачы ўсёй зямлі без выкупу працоўнаму народу і абароне інтарэсаў рабочых. Доступ памешчыкам і буржуазіі ў Цэнтральную раду беларускіх арганізацый фармальна закрываўся. Такія палітычна адыёзныя фігуры, як Скірмунт, Аляксюк, прадстаўнікі клерыкальна - нацыяналістычных колаў, не былі ўключаны ў склад выканкома ЦРБА, кіруючае становішча ў ім занялі члены Беларускай сацыялістычнай грамады Я. Лёсік, П. Бадунова, Я. Дыла, З. Жылуновіч, Ф. Шантыр, А. Смоліч і інш. Такім чынам, на авансцэне беларускага нацыянальнага руху нібыта адбыўся зрух улева. Але фактычна гэтыя перамены мелі толькі некаторы знешні эфект. Па сутнасці Цэнтральная рада мала чым адрознівалася ад папярэдняга органа. У яе дзейнасці галоўнымі заставаліся тыя ж мэты: аўтаномія, федэрацыя, развіццё нацыянальнай культуры. Кіруючыя вярхі новай арганізацыі, за невялікім выключэннем, па - ранейшаму былі схільныя да супрацоўніцтва з буржуазіяй і памешчыкамі. З. Жылуновіч пісаў, што «і Алексюкі, і нават Скірмунты мелі значны ўплыў на дзейнасць Рады». Імкнучыся павесці за сабой беларускае сялянства, Цэнтральная рада, тым не менш, адкладвала вырашэнне асноўных сацыяльна-эканамічных праблем, у тым ліку аграрнай, да Устаноўчага сходу. Між тым, сялянскія масы ўсё ясней усведамлялі, што няма карысці спадзявацца на атрыманне зямлі ад памешчыкаў мірным шляхам. Менавіта аграрнае пытанне з'яўлялася тым асялком, на якім сяляне правяралі словы і справы палітычных арганізацый.

Падобна меншавікам і эсэрам, дробнабуржуазныя нацыянальныя дэмакраты ў Беларусі хранічна адставалі ад імклівага працэсу рэвалюцыянізавання мас, на чале якога ішлі бальшавікі. З пачатку ліпеня, калі Часовы ўрад расстраляў масавую дэманстрацыю рабочых і салдат Петраграда, якія патрабавалі пераходу ўлады ў рукі Саветаў, гэты працэс уступіў у новы этап. Мірнае развіццё рэвалюцыі перапынілася. Двоеўладдзе ў краіне скончылася, усю ўладу сканцэнтравала ў сваіх руках буржуазія. Народы Расіі на ўласным вопыце сталі пераконвацца, што Часовы ўрад не збіраецца даваць ім ні сацыяльнай, ні нацыянальнай свабоды. Адзіны выхад — гэта сумесная класавая барацьба працоўных усіх нацыянальнасцей як супраць рускай, так і супраць мясцовай буржуазіі. VI з'езд РСДРП(б), які адбыўся ў канцы ліпеня — пачатку жніўня 1917 года, нацэліў пралетарыят на поўную ліквідацыю буржуазна - памешчыцкага ладу, зацвердзіў курс на ўзброенае паўстанне.

Як і па ўсёй краіне, на Беларусі летам — восенню 1917 года значна актывізаваўся забастовачны рух рабочых, ім былі ахоплены многія прадпрыемствы Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Бабруйска, Оршы і іншых гарадоў. Эканамічная барацьба рабочага класа цесна перапляталася з барацьбой за сацыяльна-палітычныя пераўтварэнні. Усё больш масавымі і мэтанакіраванымі станавіліся рэвалюцыйныя выступленні сялянства. Восенню 1917 года сялянскія хваляванні ахапілі 40 паветаў Беларусі, г. зн. практычна ўсю яе неакупіраваную частку. Пад уплывам арганізацыйна - прапагандысцкай дзейнасці бальшавікоў салдаты Заходняга фронта ўсё лепш разумелі, што вайна па-ранейшаму застаецца імперыялістычнай, захопніцкай, многія з іх адкрыта пратэставалі супраць мілітарысцкай палітыкі Часовага ўрада і камандавання.

Нарастанне рэвалюцыйнай актыўнасці мас вяло да паглыблення класавай дыферэнцыяцыі ў беларускім нацыянальна - вызваленчым руху, садзейнічала больш інтэнсіўнай выкрышталізацыі рэвалюцыйна - дэмакратычных элементаў. Тыя, хто глыбока разумеў інтарэсы працоўнага народа, усё больш выразна ўсведамлялі неабходнасць адмежавацца ад буржуазна-памешчыцкага напрамку і перайсці на пазіцыі пралетарыяту. Заканамерна, што гэты працэс у першую чаргу закрануў беларускія арганізацыі, якія дзейнічалі ў Петраградзе. Выхадцы з Беларусі, што працавалі на Пуцілаўскім, Абухаўскім, Іжорскім і іншых заводах горада, праходзілі вайсковую с[illegible]у ў Петраградскім гарніз[illegible] і на Балтыйскім флоце, знаходзіліся ў самай гушчы рэвалюцыйных падзей, зведалі на сабе дабратворны ўплыў загартаванага ў класавых бітвах пралетарыяту сталіцы. Петраград з'яўляўся цэнтра[illegible]бірання рэвалюцыйных сі[illegible] краіне, даваў магутныя імпульсы нацыянальна-вызваленчаму руху. У пераднавальнічнай атмасферы восені 1917 года ў Петраградзе на аснове тых раённых аддзелаў БСГ, у якіх было найбольш рабочых і маракоў, утварылася арганізацыя бальшавіцкага кірунку — Беларуская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя. Яе ўзначалілі А. Чарвякоў, А. Усціловіч, І. Лагун і інш. БСДРП удзельнічала ў мабілізацыі беларускіх рабочых Петраграда, а таксама маракоў і салдат-беларусаў на Кастрычніцкае ўзброенае паўстанне, арганізавала атрад, які пазней удзельнічаў у барацьбе з нямецкімі акупантамі. У красавіку 1918 года БСДРП была пераўтворана ў беларускую секцыю пры Пецяргофскім раённым камітэце РКП(б).

Рост рэвалюцыйных настрояў адбываўся і ў іншых арганізацыях Беларускай сацыялістычнай грамады, якая восенню 1917 года налічвала да 10 тысяч членаў. Няўхільнае абвастрэнне класавай барацьбы падрывала і без таго шмат у чым фармальнае адзінства гэтай сацыяльна - разнароднай партыі, якая ўвабрала ў сябе як элементы, што схіляліся да буржуазіі, так і тых, хто шукаў саюза з рабочым класам. У кастрычніку 1917 года на III з'ездзе БСГ і 2-й сесіі Цэнтральнай рады (праходзілі адначасова ў Мінску) адбыўся фактычны раскол. Правая, нацыяналістычная частка БСГ і Цэнтральнай рады стала на шлях буржуазнага сепаратызму. Да кастрычніка 1917 года Рада лічыла сябе толькі кіруючым органам беларускіх нацыянальных арганізацый. Цяпер жа яна, імкнучыся адгарадзіцца ад сацыялістычнай рэвалюцыі, стала прэтэндаваць на ролю эмбрыёна краявога дзяржаўнага органа, хаця і не карысталася шырокай падтрымкай насельніцтва. Супраць гэтых, па-сутнасці, авантурыстычных намераў выступілі прадстаўнікі Бабруйскай арганізацыі БСГ, за што яе старшыня Ф. Шантыр быў выключаны спачатку з грамадаўскай фракцыі Рады, а пасля абмеркавання яго пісьма, у якім ён «наўмысна абражае III партыйны з'езд», і з ліку членаў Грамады. Група дэлегатаў з Петраграда (З. Жылуновіч, Б. Тарашкевіч і інш.), пратэстуючы супраць намераў увесці ў склад Выканаўчага органа Рады буржуазна-памешчыцкіх дзеячаў, пакінула сесію, «каб болей не варочацца да супольнай працы».

25 кастрычніка 1917 года гераічнымі намаганнямі рабочых, салдат і матросаў у Петраградзе быў звергнуты буржуазны Часовы ўрад. II Усерасійскі з'езд Саветаў абвясціў аб пераходзе дзяржаўнай улады ў рукі Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя здзейсніла карэнны перанлом у гістарычным лёсе народаў нашай краіны, пазбавіла працоўных ад класавага прыгнёту. Савецкая ўлада абвясціла права нацый на самавызначэнне.

Перад народамі быў адкрыты шырокі прастор для сацыяльнай і нацыянальнай творчасці, узніклі рэальныя магчымасці для стварэння нацыянальнай савецкай дзяржаўнасці. Натуральна, гэтыя магчымасці не маглі ўвасобіцца ў практыку аўтаматычна. У надзвычай складаных умовах вострага класавага процiборства ў Беларусі не адразу былі знойдзены аптымальныя формы нацыянальна - дзяржаўнага будаўніцтва. З аднаго боку, значная частка ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху, асабліва інтэлігенцыя, захопленая ліберальна - дэмакратычнымі ідэямі, насцярожана ўспрыняла факт устанаўлення дыктатуры пралетарыяту. Правае, буржуазна-нацыяналістычнае крыло стала на шлях барацьбы з сацыялістычнай рэвалюцыяй, ператварылася ў адну з апор агульнарасійскай рэакцыі. З другога боку, многія кіраўнікі мясцовых органаў Савецкай улады не мелі вопыту ў вырашэнні нацыянальнага пытання, былі не ў сілах зразумець правамернасць руху за дзяржаўнае самавызначэнне беларускага народа. Кіруючыся спрошчанымі ўяўленнямі аб будучыні нацый пры сацыялізме, яны нярэдка бачылі ў гэтым руху толькі сепаратызм, які можа падарваць сілы рабоча-сялянскай улады. Беларуская савецкая дзяржава нараджалася ў полымі грамадзянскай вайны, шлях да яе пралягаў праз вострыя дыскусіі, сутыкненні розных поглядаў, праз вырашэнне спрэчных пытанняў і пераадоленне памылковых пазіцый.

Абвяшчэнне ў 1919 годзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі стала актам велізарнага гістарычнага значэння. Здабытая дзяржаўнасць садзейнічала завяршэнню фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, паклала пачатак станаўленню беларускай сацыялістычнай нацыі. Гэта была рэалізацыя на савецкай аснове прагрэсіўных дэмакратычных тэндэнцый беларускага нацыянальна - вызваленчага руху, якія ўвасаблялі свабодалюбівыя памкненні працоўных.

**Станіслаў РУДОВІЧ,**
**кандыдат**
**гістарычных навук.**

# ВТОРАЯ ЖИЗНЬ ГЛАЗА

Современная медицина, хотя и имеет в своем арсенале достаточно много эффективных средств лечения глазных заболеваний, все же порой оказывается бессильной помочь человеку восстановить потерю зрения. Метод электромагнитотерапии, разработанный кандидатом медицинских наук Ю. Мироненко, нашел применение в 15-й московской городской больнице. Он дает возможность восстанавливать функции глаза после таких тяжелых заболеваний, как атрофия зрительного нерва, глаукома, атеросклероз сосудов, кровоизлияние.

— За последние семь лет,— говорит А. Верзин, — новым методом я вылечил более пяти тысяч человек и теперь могу с уверенностью сказать, что с его помощью можно успешно лечить многие болезни глаза, с которыми до недавнего времени бессильны были бороться врачи. К тому же овладеть им несложно, и его можно использовать в любой поликлинике.

Семь лет назад А. Верзин знакомился с физическими методами лечения болезней глаз Ю. Мироненко, который в содружестве со специалистами-инженерами разработал электростимулятор МБС-ЗМ и предложил его для лечения первичной глаукомы и некоторых форм дегенерации сетчатки. При глаукоме, когда поле зрения сужено, как в бинокле, электростимуляцией можно сбалансировать внутриглазное давление, устранив тем самым главную причину заболевания. Восстанавливаются функции и других органов глаза. Если, например, «устал» зрительный нерв, то глаз перестает воспринимать окружающий мир, превращаясь в слепой экран. С помощью электростимуляции можно вдохнуть мир в этот затухающий пульсатор. Мощность импульсного тока постепенно увеличивается до появления светового восприятия голубого фона. У пациента в глазах возникают радужные искры. При этом электроды не касаются волокон нерва (как практикуют ленинградские ученые А. Шандурина и В. Хилько), а просто прикладываются к закрытым глазам. Курс лечения состоит из 10—20 процедур продолжительностью 10—15 минут, проводимых два—три раза в неделю.

Импульсный ток, считают исследователи, стимулирует не только мышцы, но и нервы, протоки жидкости лимфатической системы, регулирующие функции механизмов глаза, повышает проницаемость сосудов. В результате возобновляется световая чувствительность экрана глаза. Упавшая до 0,01 острота зрения повышается до 0,1, расширяются границы полей зрения.

Еще Ю. Мироненко, работая над проблемой усиления лечебного эффекта, провел эксперименты с магнитотерапией и достиг неожиданного: электростимуляцией и магнитным массажем, одновременным воздействием переменным и постоянным магнитными полями он оживил ранее считавшийся навеки умерший нерв. Со стороны это воспринималось как чудо. И сегодня соавтор нового комплексного метода А. Верзин не перестает удивляться его целительному эффекту, возвращая уже сам ослепшим людям способность вновь видеть окружающий мир.

Разработанный для лечебных целей по указанию Ю. Мироненко прибор магнитер РЭМ-1 применили и при глаукоме, и при других заболеваниях. И опять успех. Механизм действия этого эффекта еще до конца не изучен, но биофизики приоткрыли завесу тайны, объясняя его существованием электрического поля в мембранах клеток и магнитного поля в тканях и клетках человеческого организма, в результате длительной эволюции приспособившегося жить в магнитной паутине биосферы. Исходя из этого, воздействие электромагнитными полями определенной частоты помогает восстанавливать утраченное магнитное поле, налаживать работу внутриобменного насоса—мембраны, клетки.

Сегодня исследователи пошли дальше, стали применять магнитотерапию в сочетании с лекарственными препаратами. Магнитное поле при этом способствует лучшему проникновению их в пораженные участки глаза. Это явление назвали магнитофорезом. Для закрепления лечебного эффекта А. Верзин использует и контактную линзу, в которую в центре и по периферии вмонтирован постоянный магнит. Такую линзу врач надевает на больной глаз после электростимуляции и магнитотерапии, и пациент носит ее от одного часа до суток.

Достигший чуда в лечении тяжелых недугов глаз, ученый продолжает совершенствовать новый метод. Особое внимание он уделяет низкочастотным переменно-постоянным магнитным полям. Им совместно с инженерами создан оригинальный прибор, который сейчас апробируется.

— За годы лечения новым методом,—подчеркнул в заключение А. Верзин,—я пришел к выводу, что магнитное поле действует на патологические части глаза, а здоровые ткани как бы обходит стороной, щадит. Потому применение переменных и постоянных магнитов абсолютно безвредно для здоровой ткани глаз.

Сегодня авторы новых методов лечения атрофии зрительного нерва, глаукомы и других тяжелых заболеваний глаз ратуют за быстрейшее внедрение их предложений в медицину.

**Слава ТАЙНС.**
(АПН).

# БЕЛЫЕ ПТИЦЫ НАД БАЙКАЛОМ

У берегов Байкала появились необыкновенные птицы. Аборигены Прибайкалья—буряты—с изумлением наблюдали, как, раскинув многометровые крылья, птицы парят над утесами.

Белых птиц привезли к Байкалу в грузовике. Их не выпустили в небо, а стали... собирать, проверять техническую надежность. Крылатые новоселы—дельтапланы.

Сибиряки убеждены, что только на Байкале возникает чистое и высокое состояние души, которое невозможно высказать словами. Только на Байкале, на его берегах, дышится так легко: кажется, еще глоток этого чудесного воздуха—и ты обретешь способность летать. Что же должен чувствовать человек, у которого за спиной крылья?

Разбег, толчок—и вот с высоты птичьего полета распахивается синяя чаша Байкала. Скалистые склоны острова Ольхон, пролив Большие ворота, долина и ущелье речки Сармы, откуда временами вырывается ураганный ветер, способный выбрасывать на берег морские суда. С высоты хорошо видны и рыбацкие боты, промышляющие омуля—деликатесную рыбу, которую сибиряки предпочитают любой другой.

Издревле люди не только любовались Байкалом, но и щедро кормились от него: ловили рыбу, промышляли зверя и птицу, возделывали землю по берегам. Если на дельтапланах подняться выше над островом Ольхон, то на земле можно разглядеть загадочные знаки. Это—система древних оросительных каналов. Тысячелетия назад строителями и земледельцами здесь были курыканы—предки нынешних бурят и якутов. До наших дней сохранились остовы каменных крепостей и связанная с ними загадка: от кого была нужда защищаться на острове древнему народу, со всех сторон защищенному водой?

Байкал богат не только загадками, он сейчас ставит неотложные и трудные задачи народному хозяйству. Как сохранить уникальн[illegible] озеро, его первозданную [illegible]оту и одновременно дать возможность людям пользоваться его благами? По какой схеме организовать национальный парк? Какие виды деятельности человека предпочтительнее развивать на Байкале? На Ольхоне пытались заняться овцеводством. Но овцы стали разрушать тонкий почвенный слой, уничтожали лесной подрост. Многие склонны считать, что в этих местах надо развивать индустрию туризма. Казалось бы, это самый приемлемый путь. Но, как показывают расчеты, не самый экологически чистый. Для туристических центров необходимо надежное обеспечение сельскохозяйственной продукцией, а химизация полей на побережье категорически запрещена, развитие животноводства, как показала практика Ольхона, тоже ведет к губительным последствиям.

Подолгу парят над побережьем Байкала дельтапланеристы. Они не только приобретают опыт полетов, но и совершенствуют конструкции аппаратов. Известно: чем больше угол разворота крыльев и их площадь, тем дольше спортсмен способен продержаться в воздухе. Но увеличение угла приводит к тому, что дельтаплан становится неустойчив, а расширение площади крыльев приводит к увеличению веса... Вот и приходится искать методом проб оптимальный баланс этим невесомостям.

...Ловят ветер белые крылья. Гомонят чайки, дивясь большим птицам, проникшим в их воздушные владения. А ниже, в ладонях гор, греется на солнце старый Байкал. Он только в июне освободился от льда и теперь будет бодрствовать до глубокой зимы, до января—согретый солнцем и заботой людей.

**Игорь ШИРОБОКОВ.**







**Люблю тебя, Петра творенье,**
**Люблю твой строгий, стройный вид,**
**Невы державное теченье,**
**Береговой ее гранит...**

**Так с восхищением и признательностью писал о городе на Неве великий русский поэт Александр Пушкин. И сегодня каждый, кто хоть однажды побывал в Ленинграде, будет помнить о нем всегда, ждать встречи с ним, как праздника.**

**Ленинград известен всему миру, и со всего мира едут сюда туристы (среди которых немало и наших соотечественников), чтобы познакомиться с прекрасным городом, его богатой историей и современностью.**

**Ленинград — город трех революций, колыбель Великого Октября, город-герой, прославившийся беспримерным мужеством в блокадные дни Великой Отечественной войны.**

**Ленинград — крупный морской порт на Балтике, один из важнейших в стране промышленный, научный и культурный центр. Здесь производится половина всех турбин и больше половины генераторов, выпускаемых в стране, каждый второй вагон для метрополитена, более сорока процентов фотоаппаратов и многое, многое другое.**

**Ленинград — один из красивейших городов мира. Его неповторимые архитектурные ансамбли, дворцы и парки создавались выдающимися зодчими, талантом русских мастеров-умельцев.**

**Всемирно известны музеи Ленинграда. Среди них Государственный Эрмитаж и Русский музей, в которых собраны шедевры мировой и русской живописи, другие неповторимые произведения искусства. В Ленинграде находится Музей Великой Октябрьской социалистической революции и филиал Центрального музея В. И. Ленина, с именем которого связаны многие славные страницы истории города.**

**НА СНИМКАХ: памятник Петру I; туристы на Дворцовой площади у Александровской колонны: Театральная площадь.**

